Ніва
ШТОТЫДНЁВІК
ГОД I № 35 БЕЛАСТОК, 28 КАСТРЫЧНІКА 1956 г. Цана 60 гр.



*28 кастрычніка — дзень нацыянальнага свята Чэхаславакіі. На здымку: святочны летні нацыянальны касцюм маладых славачак.*

# ПАРА ПРАЧНУЦЦА

8 месяцаў мінула ад I з'езду Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Няма патрэбы паказваць падзей і фактаў, якія адбыліся ў гэтым часе, кожны аб іх добра ведае. Можна сказаць. адным сказам: — Перыяд вялікай абновы. Адным з доказаў гэтай вялікай абновы з'яўляецца сарганізаванне Беларускага грамадска - культурнага таварыства. Памятаем мы ўсе той дзень у лютым. Колькі-ж радасці, колькі новых прапаноў. Адкрываўся новы этап у жыцці беларусаў — жыхароў Народнай Польшчы. Што зроблена на працягу 8 месяцаў?

Дагэтуль паклікана да жыцця Праўленні Павятовых Аддзелаў БГ-КТ у Гайнаўцы, Бельску, Гарадку, Семятычах і Варшаве, згуртаваўся раскіданы дагэтуль беларускі актыў. Актыў Таварыства—гэта старыя, выпрабаваныя дзеячы КПЗБ, Грамады, загартаваныя ў вострай барацьбе з санацыйнымі ўладамі і гітлераўскім захопнікам, а таксама моладзь выхаваная ў Народнай Польшчы.

Устаноўлена сувязь з Беларускім Таварыствам культурнай сувязі з заграніцай у Мінску. Выязджала ў Мінск дэлегацыя БГ-КТ, а таксама пабывала ў Беластоку дэлегацыя Беларускага Таварыства культурнай сувязі з заграніцай. Абмеркавана планы далейшага супрацоўніцтва. У выніку клопатаў з боку Галоўнага Праўлення на Варшаўскім Універсітэце сарганізавана аддзяленне беларускай філалогіі. Распачаў працу і ўжо ў недалёкай будучыні выступіць з праграмай Беларускі народны хор у Беластоку. Падчас месячніка польска - савецкай дружбы сарганізавана выстаўкі, якія паказвалі дасягненні БССР, а таксама азнаямлялі з беларускай народнай творчасцю ў галіне ткацтва і вышыўкі. У невялікай колькасці вёсак дана даклады на тэму развіцця беларускай культуры.

У Галоўным Праўленні гавораць, што вядзецца праца ў напрамку пашырэння радоў Таварыства. Вынікі? Вялікая невядомая. Каня з сядлом таму, хто патрапіць сказаць колькі членаў налічвае ў сучасны момант Таварыства.

Усе праўленні не патрапяць адказаць колькі ў іх членаў, не вядуцца сістэматычна пералікі членаў, членскія білеты выдаюцца ад выпадку да выпадку. Ды і членаў ёсць нямнога. У Саколцы, кажуць, што каля 100, у Гайчаўцы 50 і г. д.

Ці не замала, як на 8 месяцаў працы? Як-жа можна гаварыць аб добрай працы Таварыства, калі няма арганізацыйна згуртаваных членаў, якія ведалі-б мэты і заданні Таварыства і штодзённа ажыццяўлялі-б іх.

Тут і знаходзіцца ўсё зло ў працы Таварыства ў мінулым.

Дасягненні аб якіх успаміналася вышэй не маюць у параўнанні з гэтым асноўным недахопам большага значэння.

У чым справа? Справа ў тым, што Галоўнае Праўленне дагэтуль не выйшла з шырокай масава - палітычнай працай сярод беларускага насельніцтва. Не выйшла шырока са статутам Таварыства, пастановамі, якія былі прыняты на I з'ездзе і на павятовых з'ездах. Грамадскасць не азнаёмлена з мэтамі Таварыства.

Аб працы Таварыства няхай сведчыць і такі факт. Члены Галоўнага Праўлення выбраныя на I з'ездзе, асабліва тыя, што жывуць у вёсках аж дагэтуль яшчэ не з'яўляюцца яго членамі. Ды і ніхто з імі на працягу 8-мі месяцаў не гутарыў. не падказаў што трэба рабіць, не параіўся з імі.

Такія метады працы з актывам не маглі даць якіх-небудзь рэзультатаў.

Два даклады, якія дагэтуль апрацавана, ані крыху не вырашаюць праблемы. Ёсць добры, адданы актыў, які хоча працаваць. Трэба падаць яму напрамак працы. А дагэтуль гэтага не было.

Галоўнае Праўленне занятае працай на высокім цэнтральным «шчэблю» забылася аб сваёй асноўнай працы. працы з шырокімі масамі беларусаў — жыхароў Народнай Польшчы. Гэтая ненармальная з'ява не можа далей працягвацца. Трэба карэнным чынам абмеркаваць дагэтуляшнюю працу і змяніць яе стыль.

Дзеля гэтага неабходным з'яўляецца неадкладна склікаць пленум Галоўнага Праўлення. Тое-ж самае трэба зрабіць і ў паветах. Няхай людзі скажуць што і як трэба рабіць.

Не толькі ў галіне пашырэння радоў Таварыства ёсць недахопы. Возьмем напрыклад справу культуры. У Беластоку працуе хор, арганізуецца танцавальны гурток, аказваецца дапамогу гурткам мастацкай самадзейнасці ў Гарадку, Белавежы, Новай Волі. А што больш? Ці можна сёння сказаць, як працуюць вясковыя клубы, меншыя гурткі? Ніхто ў іх не быў і ніхто аб іх замнога не ведае. А ім патрэбная вялікая дапамога. Не заўсёды ў фінансавых справах. У першу чаргу ў рэпертуары і інструктажы. Тое-ж можна сказаць аб бібліятэках і іншых культурных установах. З гэтым вяжацца і справа людзей, якія працуюць у гэтай галіне. Чым-жа можа дапамагчы гуртку мастацкай самадзейнасці інструктар Галоўнага Праўлення, адказны за культурную працу, калі не ведае беларускай літаратуры, гісторыі, а нават... мовы. Гэта-ж абсурд з якім нельга згадзіцца.

Калі ўжо гаворым аб культуры, — то трэба падкрэсліць яшчэ такі факт. Да Галоўнага Праўлення прыходзяць людзі, якія хочуць працаваць у танцавальнай і тэатральнай секцыях. Трэба было цэлых месяцаў намаганняў, з боку грамадскасці, каб толькі ў час апошніх некалькіх тыдняў ГП пачало думаць аб іх рэалізацыі.

Ці незадоўга трэба было чакаць?

І яшчэ адна вельмі важная справа. У статуце і пастановах Таварыства гаворыцца, што Таварыства будзе ажыццяўляць лінію Партыі і Урада. Што дагэтуль зроблена? Абсалютна нічога. Не падумала аб гэтым Галоўнае Праўленне, не падказала Павятовым Праўленням. А быў XX з'езд КПСС і VII Пленум КЦ ПЗПР. Насельніцтва хвалюе шмат праблем, маюць яны шмат няяснасцей якія трэба ім растлумачыць. І тут Таварыства нічога не зрабіла. Як можна было да гэтага дапусціць, каб адарваць ад жыцця, адарвацца ад праблем, якімі жыве ўвесь народ. Над гэтым трэба моцна задумацца. Культурную і асветную працу нельга праводзіць у адарванні ад іншых галін нашага жыцця. А гэтае адарванне моцна відаць у працы Таварыства.

Можна было-б узяць першую лепшую пастанову і пераглядзеўшы яе сцвердзіць, што яна ажыццяўляецца толькі ў малым працэнце. Вывад ясны. Чакаць няма чаго. Трэба зараз, з месца ўзяцца да працы. Усе ўмовы на гэта ёсць. Новая плынь павінна знайсці месца і ў нашай працы.

М. М.

## Восень у лесе

Зажурыўся лес,
Сцішыўся ў ім шум;
Птушкі не пяюць,
Запанаваў сум.

Глянеш і на гай —
Золатам блішчыць,
Ды павольна ліст
На зямлю ляціць.

А лес ціхенька
Думку думае,
Што пара - краса
Адыйшла ўжо.

Не сумуй ты лес,
Спі спакойным сном·
Настане вясна,
Загамоніш зноў.

УЛАДЗІМІР ГАЙДУК
Тарнопаль
Гайнаўскі павет

## VIII Пленум ЦК ПЗПР

# НОВАЕ ПАЛІТЫЧНАЕ БЮРО

## Тав. Уладыслаў Гамулка І Сакратар ЦК ПЗПР

У нядзелю, 21 кастрычніка г. г. вечарам закончыла работу VIII Пленум Цэнтральнага Камітэта Польскай Аб'яднанай Рабочай Партыі.

У спрэчках над праектамі пастаноў прынялі ўдзел: Лапот, Класевіч, Берман, З. Новак, Данішэўскі, Спыхальскі, Охаб, Мінц, Юзьвяк-Вітальд, Цыранкевіч, Завадзкі.

У асноўным Пленум зацвердзіла прапанаваныя Палітычным Бюро пастановы ўлічваючы шэраг паправак унесеных камісіямі прапаноў. Пленум даручыла Палітычнаму Бюро і камісіям прапаноў спалучыць гэтыя пастановы ў адну пастанову адносна актуальных палітычных і гаспадарчых задач партыі і іх адрэдагавання.

У другім пункце парадку дня работ Пленума праведзена выбары ў Палітбюро і Сакратарыят ЦК шляхам тайнага галасавання.

### У склад Палітычнага Бюро выбрана наступных таварышаў:

**Уладыслаў Гамулка**
**Стэфан Ендрыхоўскі**
**Аляксандр Завадзкі**
**Роман Замброўскі**
**Ігнацы Лёга-Савінскі**
**Ежы Мараўскі**
**Эдвард Охаб**
**Адам Рапацкі**
**Юзэф Цыранкевіч**

**Першым Сакратаром ЦК ПЗПР аднагалосна выбран тав. УЛАДЫСЛАЎ ГАМУЛКА — ВЕСЛАЎ.**

**У склад Сакратарыята ЦК ПЗПР выбрана наступных таварышаў:**

**ЕЖЫ АЛЬБРЭХТ, УЛАДЫСЛАЎ ГАМУЛКА - ВЕСЛАЎ, ЭДВАРД ГЕРЭК, РАМАН ЗАМБРОЎСКІ, УЛАДЫСЛАЎ МАТВІН, ЭДВАРД ОХАБ, ВІТАЛЬД ЯРОСІНЬСКІ.**

На Пленуме ўтворана таксама камісію па ўдакладненню партыйнай адказнасці асоб, якія ў мінулыя гады з'яўляліся адказнымі за дзейнасць органаў бяспекі

Работы VIII Пленума закончыліся праспяваннем «Інтэрнацыянала».

Падчас работ Пленума было ўнесена шмат прапаноў і рэзалюцый з прадпрыемстваў і ўстаноў Варшавы і іншых цэнтраў краіны.


Уладыслаў Гамулка


Стэфан Ендрыхоўскі


Аляксандр Завадзкі


Роман Замброўскі


Ігнацы Лёга-Савінскі


Ежы Мараўскі


Эдвард Охаб


Адам Рапацкі


Юзэф Цыранкевіч

# Пастанова Дзяржаўнай Рады з 20.X.1956 года адносна ўтварэння Дзяржаўнай Выбарчай Камісіі

На падставе 18 артыкула 2-ай пастановы з 1 жніўня 1952 года — Палажэнне аб выбарах у Сейм Польскай Народнай Рэспублікі — і ў сувязі з пастановай Дзяржаўнай Рады з 24 верасня 1956 года аб аб'яўленні выбараў у Сейм Польскай Народнай Рэспублікі (Дз. П нр 40, п. 181) — Дзяржаўная Рада вырашыла ўтварыць Дзяржаўную Выбарчую Камісію ў складзе: старшыня Дзяржаўнай Выбарчай Камісіі:

Ян Васількоўскі, прафесар Варшаўскага Універсітэта, член-карэспандэнт Польскай акадэміі навук і дырэктар Інстытута юрыдычных навук.

Намеснікі старшыні Дзяржаўнай Выбарчай Камісіі:

1. Ежы Альбрэхт, сакратар ЦК ПЗПР.
2. Стэфан Ігнар, старшыня НК ЗСЛь.

Сакратар Дзяржаўнай Выбарчай Камісіі:

Карл Ян Вендэ, намеснік старшыні ЦК СД.

Члены Дзяржаўнай Выбарчай Камісіі:

1. Раман Гайзлер, сакратар ЦРЗЗ.
2. Уладыслаў Гаўлік, старшыня Выканаўчага Камітэта ЗСЛь у Любліне.
3. Генрых Гальдэр, намеснік шэфа Канцылярыі Дзяржаўнай Рады.
4. Дамінік Гарадынскі каталіцкі дзеяч, публіцыст.
5. Яраслаў Івашкевіч, пісьменнік, намеснік старшыні Галоўнага Праўлення Саюза польскіх пісьменнікаў, старшыня ПКОП.
6. Ежы Ядлоўскі, прафесар Варшаўскага Універсітэта, суддзя Вярхоўнага суда, член Прэзідыума ЦК СД.
7. Ян Кулага — член Прэзідыума Краёвай Рады вытворчай кааперацыі, старшыня сельскага спадарчага кааператыва ў Маршоўцы, пав. Слёнская Сьрода, Вроцлаўскае ваяводства.
8. Ян Мрохань, старшыня Прэзідыума ВРН у Opoлі.
9. Казімеж Опалак прафесар Ягелёнскага Універсітэта ў Кракаве.
10. Эўгеня Прагерава грамадская дзеячка, намеснік старшыні Галоўнага Праўлення Лігі жанчын.
11. Мар'ян Рэнке, сакратар ГП ЗМП.
12. Сільвестар Завадзкі, кандыдат юрыдычных навук, намеснік старшыні ГП Аб'еднання Польскіх юрыстаў.

Старшыня Дзяржаўнай Рады
(—) А. ЗАВАДЗКІ

Сакратар Дзяржаўнай Рады
(—) С. СКШЭШЭУСКІ

 

# ВЫСТУПАЕ АРКЕСТР ЦЮКШЫ

*Увага, увага, гаворыць Лодзь на хвалях усіх радыёстанцый. Выступае аркестр мандалістаў Эдуарда Цюкшы. У выкананні аркестра... пачуем...*

Напэўна часта, дарагія чытачы, чулі вы гэтакія словы ў праграме нашага радыё. Хто з нас не любіць паслухаць канцэрта аркестры мандаліністаў. Нам — беларусам, гэты аркестр з'яўляецца асабліва прыемным з увагі на рэпертуар. Шэсцдзесят беларускіх мелодый выконваў аркестр. Большую частку апрацаваў сам дырыжор, Эдуард Цюкша.

Самай каштоўнай пазіцыяй у рэпертуары аркестра, і самым цудоўнейшым канцэртам у польскім радыё, з'яўляецца «Беларуская суіта», кампазіцыі члена аркестра не так даўно памёршага ў Познані, кампазітара Юрыя Шэлі.

Не так даўно трапіў я ў Лодзь. Як-жа, думаю не скарыстаць з такой аказіі і не перадаць прывітання вядомаму дырыжору ад нашых чытачоў.

Цюкша прыняў мяне вельмі сардэчна. Не паспелі мы скурыць цыгары, як на стале з'явілася пахучая, моцная кава.

— Мая жонка, Ядвіга, паважае гасцей землякоў — пахваліўся Цюкша.

— Што-ж, цікавіць вас гісторыя нашага аркестра — кажа далей Цюкша.

Я кіўнуў галавой. Цюкша тады выйшаў на хвіліну, прынёс некалькі сегрэгатаў і кніг. Пачалі мы разглядаць гісторыю калектыва.

На гутарцы аб гэтым прайшоў нам увесь дзень. Вось і запісі гэтай гутаркі.

У 1922 годзе ў Вільні завязалася «Таварыства Мандаліністаў «Каскада», якое налічвала некалькіх «самашэдшых» мандаліністаў, галоўным чынам маладых пекараў, якім захацелася тварыць вялікую музыку. Іх правадніком і першым настаўнікам з'яўляўся Эдуард Цюкша. Без грошай, без ніякай дапамогі, распачалі яны сваю працу. Рэпетыцыі адбываліся ў пякарнях і рэстаранах. Былі дні, калі на рэпетыцыі з сарака членаў таварыства прыходзіла толькі чатырох. Што не рабіў Эдуард Цюкша, каб дасканаліць аркестр. Абяцаў залатыя горы, канцэрты ў тэатры і на эстрадах, каб толькі дабіцца ўзроўня. І зрабіў сваё. Аркестр стаўся найлепшым ва ўсім Вільні.

— На якіх творах вучыўся аркестр?

Пачатковая «школа» — гэта простыя, сардэчныя мелодыі беларускага народа, тыя, якія сам Цюкша вынес з сваёй роднай вёскі, Каркажышкі ля Вільні, тыя, якія прынеслі да аркестра члены таварыства — кампазітар Шэль, вядомы дырыжор і кіраўнік беларускага хору Рыгор Шырма, Генадзі Цітовіч і Леанід Фёдараў.

З таварыствам мандаліністаў супрацоўнічаў і выступаў на канцэртах беларускі жаночы хор, дырыжорам якога з,яўлялася Вольга Фёдарава.

Наступіў 1936 год, час вялікага выпрабавання сваіх сіл на ўсепольскім конкурсе мандалінных аркестраў. Віленскі «Каскад» завяяваў тады першае месца. Пачынаецца праца ў Віленскай радыёстанцыі. І адтуль сталі разыходзіцца на ўвесь свет мелодыі беларускай песні.

Цюкша паказвае праграмы канцэртаў з таго часу, так званых «Вечарынак у Каркажышках» у якіх выступала добра вядомая для ўсіх «Цётка Альбінова».

У кожным канцэрце аркестр выконваў беларускія песні.

У Вільню прыходзіць Совецкая ўлада. Наступае перыяд буйнага росквіту аркестра. Пачынаюцца цэлыя канцэрты беларускай музыкі. У аркестры працуе вядомы дырыжор Уладыслаў Шпінальскі. Прыходзіць тады ліст з Мінскай філармоніі з прапановай наступіць на сталу працу цэлага аркестра ў Мінску.

Перашкодзіла гэтаму вайна. Але калі толькі прагнана з Вільні фашыстаў аркестр «Каскада» ізноў працягвае культурную службу, ізноў па віленскім радыё разыходзіцца ў свет беларуская народная песня.

Мандаліністы Цюкшы граюць і ў шпіталях. Вось што пасля аднаго з такіх канцэртаў напісалі ў аркестр раненыя совецкія афіцэры:

...*«Дарагія таварышы, ваш канцэрт з 29.III.45 г. быў для нас, раненых, вялікім артыстычным пражыццём, ён дапамог нам зразумець прыгожасць народнай музыкі, тым больш, што выкананне было праўдзівым майстэрствам. Дзякуючы за гэтыя прыемныя хвіліны, жадаем вам далейшага развіцця і поспехаў».*

У той-жа час пры ўдзеле членаў усесаюзнага радыёкамітэта адбываецца юбілейны 1.000-ны канцэрт аркестра.

У маі 1945 г., аркестр прыехаў у Польшчу, і прыжыўся ў Лодзі. Аркестр стаецца самым важным пунктам праграмы Лодзінскага радыё. Адтуль плывуць у свет гукі беларускіх мелодый. З іх цяпер складаецца адна трэцяя рэпертуара аркестра. Далейшую гісторыю аркестра мы чуем кожны тыдзень па радыё. Цюкша атрымлівае тысячы лістоў ад радыёслухачоў. Вось адзін з іх:

*«Як толькі ў праграме канцэрта знаходзіцца ваш аркестр — піша К. Пятроўскі (з Устроня, ваяводства Ольштын) — ля радыёкрэпак збіраецца ўся вёска і толькі шкада, што вы не чуеце нашых апладысментаў».*

Дзякуючы канцэртам Цюкшы, павялічваецца колькасць струнных аркестраў. Усе яны просяць парады і дапамогі ў Цюкшы, і кожны атрымлівае яе. Сёння грае ў аркестры 26 чалавек. Усе яны кіруюць аматарскімі аркестрамі ў Лодзі, у якой налічваецца дзесяткі мандалінных аркестраў. У Польшчы налічваецца іх звыш тысячы.

(Працяг на стар. 7.)



*Кампазітар Новікаў - Прыбой і Эдуард Цюкша ў таварыскай гутарцы.*



*Аркестр Эдуарда Цюкшы.*

БАЛЕСЛАЎ МАНКЕВІЧ

# Гутарка аб мове

*Адно ты нам, слоўца,*
*засталося верным,*
*каб вясці з упадку*
*к радасцям бязмерным.*

*ЯНКА КУПАЛА*

Перад тым, як распачаць разгляд сучаснай беларускай літаратурнай мовы, неабходна зрабіць некалькі заўваг аб паходжанні беларускай мовы і яе мінулым.

Найбольшы прастор Еўропы насяляюць народы, якія гавораць славянскімі мовамі. Славянскія мовы падзяляюцца на тры групы:

1. усходнеславянскую, да якой належаць руская, беларуская і украінская мовы;

2. заходнеславянскую, да якой належаць польская, чэшская, славацкая і серба-лужыцкая мовы;

3. поўднёваславянскую, да якой належаць сербска-харвацкая, балгарская, славенская і македонская мовы.

Усе гэтыя мовы развіліся на працягу многіх стагоддзяў з агульнай праславянскай мовы, расчляненне якой на ўсходнюю заходнюю і поўднёвую галіны адбылося каля VI стагоддзя новай эры. Паяўленне асобных моў — рускай, беларускай і украінскай адносіцца да XIII стагоддзя. Да гэтага часу гэтыя мовы мелі вельмі малыя розніцы. Гэты перыяд (ад VI да XIII ст.) называецца старарускай моўнай агульнасцю.

Пісьмовыя помнікі з рысамі, характэрнымі для беларускай мовы, сустракаюцца ўжо ў XIII стагоддзі. Такім помнікам з'яўляецца дагаворная грамата Смаленска з Рыгай і Гоцкім узбярэжжам, напісаная ў 1229 годзе.

Поўнае развіццё старадаўняй беларускай мовы адбылося на працягуXVI XVII стагоддзяў.

Выключна вялікае значэнне для развіцця тагачаснай беларускай мовы мае дзейнасць першага беларускага друкара Георгія Скарыны. У 1517—1520 гадах ён пераклаў на беларускую мову і выдаў у чэшскай Празе 22 кнігі з біблії. У 1525 годзе Скарына заснаваў друкарню ў Вільні (першая друкарня на ўсходнеславянскіх землях) і тут далей друкаваў беларускія кніжкі.

Прадаўжальнікамі развіцця беларускай мовы былі Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Мілецій Сматрыцкі, Лаўрэнцій Зізаній і іншыя.

Адным з галоўных помнікаў друкаванага беларускага слова з'яўляецца збор законаў — Статут Вялікага княства Літоўскага, які быў апрацаваны ў XVI стагоддзі.

У сілу склаўшыхся гістарычна - палітычных абставін пад канец XVII стагоддзя пачынаецца заняпад беларускай літаратурнай мовы. Значна частка адукаваных слаёў беларускага народа прымае польскую мову і пачынае пісаць па-польску.

Але беларуская мова бытуе ў народных гушчах, якія не паддаюцца чужым уплывам.

Паступовае адраджэнне беларускай літаратуры пачынаецца ў XIX стагоддзі. Паяўляюцца творы невядомых аўтараў, пісаныя на народнай беларускай мове, як «Тарас на Парнасе» і «Энеіда навыварат».

Творы Францішка Багушэвіча (1840—1900) будзяць у беларусаў нацыянальнае пачуццё. Вось што пісаў Багушэвіч у прадмове да зборніка сваіх вершаў і паэм «Дудка беларуская», выдадзенага пад псеўданімам Мацея Бурачка.

*«...Мушу пагаварыць трохі аб нашай долі - нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, да і не толькі мы, а ўсе людзі цёмныя мужыцкай завуць, а завецца яна беларускай... Як мяне навучылі чытаць - пісаць... я пераканаўся, што наша мова ёсць такая-ж людская і панская, як і французская, або нямецкая, або іншая якая... Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!».*

Асновапаложнікамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы з'яўляюцца вялікія сыны нашага народа, народныя пісьменнікі Янка Купала (1882—1942) і Якуб Колас (1882—1956). Яны любілі родную мову і сваімі творамі ўзнялі яе на належную вышыню.

Неабмежаванае, бурнае развіццё беларускай літаратурнай мовы пачалося пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, пасля таго, як беларуская мова стала дзяржаўнай мовай Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

Беларуская мова мае многа агульнага і з мовай рускай, і з мовай украінскай, яны-ж складаюць усходнеславянскую групу. Асабліва ў яе многа агульнага з рускай мовай, з якой беларуская мова чэрпае многа новых слоў, перш за ўсё ў галіне тэхнікі, навуковай тэрміналогіі і грамадскага жыцця.

У беларускай мове ёсць многа слоў, якія сустракаюцца і ў польскай мове. Гэта словы з'яўляюцца або агульнымі ў многіх славянскіх мовах, як хлеб, масла, або як і беларуская мова пераняла іх з польскай мовы. Да такіх належаць, напрыклад, відэлец, шклянка і іншыя.

Хоць рэдка, але яшчэ можна пачуць неразумныя разважанні, што беларуская мова, гэта нейкая сумесь рускай і польскай мовы. Так развважаючы, дык і аб польскай мове можна сказаць, што яна з'яўляецца сумессю беларускай, рускай і украінскай, бо ў ёй-жа шмат слоў, якія мы знойдзем і ў гэтых апошніх. Так могуць развважаць толькі тыя, якія нічога не разумеюць у справах падабенства, якое можа існаваць паміж мовамі.

Мова народа — скарб ягоны. Калі народ пакідае сваю мову, ён гіне. У беларускага народа быў цяжкі перыяд, перыяд заняпаду, але ён даўно ўжо мінуў. Цяпер беларускі народ хутка развіваецца ў згоднай сям'і народаў Совецкага Саюза. Ён стварае многа культурных каштоўнасцей, якімі карыстаюцца і іншыя народы свету.

Добра ведаць мовы суседніх народаў, добра ведаць і міжнародную мову эсперанта, але перш за ўсё трэба вывучыць сваю родную мову.

У далейшых гутарках мы і зоймемся сістэматычным разглядам структуры сучаснай беларускай літаратурнай мовы.



 

 

# ЧЭШСКАЯ АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

**Мацнеюць і шырацца сувязі** чэшскай і беларускай культур, заснаваныя на глыбокай узаемнасці. Мы памятаем аб тым, што беларускія і чэшскія дзеячы культуры былі блізкімі з часоў фарміравання беларускай народнасці. Дзейнасць нашага вучонага і першадрукара Г. Скарыны ўзбагаціла культуру абодвух народаў; гусіты сустракалі спачуванне і падтрымку на беларускай зямлі П. Шафарыкам былі ўпершыню ў Заходняй Еўропе адзначаны і навукова апісаны рысы беларускай мовы, Ф. Чэлакоўскі ў сваім зборніку славянскіх прыказак прывёў паралелі чэшскіх і беларускіх крылатых выразаў, а вядомы сучасны фалькларыст Л. Куба «не толькі запісаў прыгожыя і своеасаблівыя народныя беларускія песні, але змог зрабіць іх блізкімі нам, — пісала газета «Літэрарні навіны», — сваім глыбока павучальным і поўным любасці каментарыем». Усё гэта закладвала асновы той эстафеты братэрства, якая прадвызначыла шырокае грамадскае гучанне выступленняў Я. Купалы ў чэшскім друку ў час яго знаходжання ў Празе. Чэшска - беларускае братэрства мацнела і загартоўвалася ў агні вайны супраць гітлераўскіх захопнікаў. Лістоўкі Юліуса Фучыка, рэдактара падпольнай газеты «Рудэ права», са зваротам да чэшскіх працоўных ваяваць так, як ваюе брацкі беларускі народ, пераклікаліся з лістоўкамі беларускіх партызан да чэхаў і славакаў.

Як новае сведчанне духоўнай блізкасці двух народаў, у канцы 1955 года ў Празе выйшаў зборнік «Паэты Беларусі» — вынік плённай трохгадовай працы вялікай групы чэхаславацкіх паэтаў, перакладчыкаў і рэдакцыі.

З вялікім веданнем справы і з любоўю ўкладальнікі і каментатары анталогіі падыйшлі да сваёй задачы — даць чэшскаму чытачу «першую цэласную карціну беларускай совецкай паэзіі прынамсі ў асноўных яе рысах». Укладальнік анталогіі І. Румлер абапіраўся ў сваёй рабоце на доўвекавы вопыт перакладаў беларускай класікі на чэшскую мову, зачынальнікамі чаго былі А. Чэрны, Ф Ціхі і І. Гора, а таксама на анталогіі беларускай паэзіі, выдадзеныя раней на рускай мове.

Разглядаемая анталогія не паўтарае аналагічных рускіх выданняў. У яе ўключаны стаўшыя класічнымі пераклады І.Горы, а таксама найбольш значныя сучасныя вершы беларускіх паэтаў.

Чэшскі чытач мае магчымасць пазнаёміцца амаль з усімі праграмнымі вершамі Я. Купалы.

Даючы аналіз і ацэнку кожнаму змешчанаму ў зборніку вершу Я Купалы, І. Румлер асабліва адзначае аптымізм творчасці паэта, народнасць мовы і паэтычных сродкаў, глыбокае веданне паэтам душы народа. Аб вершы «А хто там ідзе», які па праву назван характэрным для Я. Купалы, І. Румлер піша: «Мы, чэхі, не можам не адчуць — асабліва ў заключных радках гэтага верша, які канчаецца словамі «Людзьмі звацца!» — унутранай блізкасці яго да «Балады аб вясне 1848 года» Неруды...»

Выражэннем радасці і смутку, жыцця, працы і змагання народа называе ўкладальнік зборніка творчасць Я. Коласа, узорамі якой пададзены дарэвалюцыйныя вершы.

Вершы з ваеннай і пасляваеннай лірыкі Коласа, паводле слоў укладальніка, дадуць чэшскаму чытачу ўяўленне аб гэтым мужным паэце, які змагаецца зброяй мастацкага слова за шчасце, свабоду і росквіт народа.

Характарызуючы сатырычную творчасць К. Крапівы, укладальнік піша, што Крапіва напоўніў сваю байку новым социяльным зместам і ўмацніў яе сатырычныя функцыі. «Хоць байка Крапівы, — працягвае І. Румлер, — і захоўвае звычайныя адзнакі жанра — іншасказальнасць, алегарычнасць вобразаў, маральнае павучанне, яна выходзіць далёка за межы традыцыйнага разумення байкі і з'яўляецца адным з відаў публіцыстычна завостранай, палітычнай сатыры. Крапіва адкідае дыдактычнасць байкі і ўводзіць у яе новыя апавядальныя, драматычныя, сатырычныя і лірычныя элементы».

Змешчаныя ў зборніку лірычныя вершы П. Броўкі даюць аснову для заключэння, што Броўка «чесна прымыкае да традыцый беларускага фальклору, з якім ён звязан не толькі дэталямі, але наогул мастацкімі сродкамі, якія ён ужывае... Фальклор ён робіць асновай сваёй паэтычнай манеры, якая вызначаецца бурным тэмпераментам і публіцыстычнай страснасцю».

Творчасць Пятра Глебкі прадстаўлена ў анталогіі лепшымі вершамі рознага часу. Адзначаючы, што па характару паэтычнага таленту Глебка перш за ўсё лірык, што іменна сваёй творчасцю ваенных год Глебка ўнёс значны ўклад у развіццё беларускай лірыкі, ваенную лірыку Глебкі анталогія прадстаўляе больш поўна. Румлер указвае, што ў вершах Глебкі простай, народнай мове адпавядае і прастата вершаванай формы, найчасцей пdescribed сеннай, і што з дапамогай мастацкай дэталі Глебка ўмее намаляваць вобраз значнай дзейнасці і грамадскага значэння.

Паэтычны дэбют М. Танка, талент якога рос і мужнеў у цяжкіх умовах палітычнай барацьбы, адзначае Румлер, не выпадкова нагадвае перадрэвалюцыйную творчасць Я. Купалы і Я. Коласа, але ў творчасці Танка «ёсць і нешта большае — ён ужо не піша толькі «вясковыя» песні, але песні «вёскі і горада».

Аб паэме «Пражскі дзённік», урыўкі з якой друкуюцца ў зборніку, укладальнік піша: «Нам не можа не быць дарагой гэтая паэма, бо ўзнікла яна з ураженняў аб нашай зямлі, і ў ёй столькі месца ўдзелена нашаму новаму чэхаславацкаму жыццю».

Іменна зварот беларускіх паэтаў да жывой крыніцы фальклору, падкрэсліваецца ў анталогіі, абумоўлівае сучасны маштаб беларускай паэзіі.

Характарызуючы творчую манеру А. Куляшова, літаратуразнаўца адзначае, што для паэта свядомае чэрпанне з фальклору стала ў значнай ступені элементам уласнага творчага метаду. «З дапамогай фальклору, — чытаем мы ў анталогіі, — паэт можа надзейна і зразумела, ярка і рэалістычна ажыццявіць на сучаснай ступені развіцця беларускай паэзіі свае смелыя ідэі паэта-комуніста». Да вершаў на грамадскія, палітычныя, партыйныя тэмы часта, як заўважае літаратуразнаўца, падыходзяць з апаскай чайсці ў іх рытарычнасць і фразу, але «вершы Куляшова былі для нас прыемнай нечаканасцю, і таму і ў нас мы будзем патрабаваць такой ідэйна - моцнай, па-новаму зразумелай і прытым паэтычна - дасканалай публіцыстычнай лірыкі, якой з'яўляюцца вершы Куляшова

«Прытым, — агаварваецца рэдактар зборніка, — мы не павінны забываць, што перад намі пераклады на чэшскую мову, — а перакласці такога паэта, нават для С. К. Нэймана, было-б нялёгкім арэшкам».

Паэтам суровай ласкі і мужных пачуццяў называе Румлер Пімена Панчанку, галоўнымі рысамі творчасці якога з'яўляюцца, на яго думку, лірызм, свежасць і паэтычнасць вобразнай сістэмы. «Панчанка ўмее добра бачыць, — піша Румлер, — і тонкімі, лёгкімі дэталямі стварае цудаўны вобраз беларускай прыроды», што, аднак, не з'яўляецца для паэта самамэтай. У простых і паэтычна ясных вершах П. Панчанкі чэшскі літаратуразнаўца адзначае выразнасць мовы, якая ў лепшых творах паэта набліжаецца да крылатых слоў і народных прымавак.

Анталогія ўзбагачае чэшскага чытача ўзорамі беларускай совецкай паэзіі і змястоўнымі каментарыямі да іх.

Пачатак серыі перакладаў беларускіх паэтаў, за якой абяцае хутка пайсці проза, знойдзе водгук не толькі ў чэшскіх чытачоў, як адзначала пражская газета «Літэрарні навіны», але і ў чытачоў беларускіх.

А. М. Д. Ф.



*У ЗША выпрацавана маленькія мініятурныя аўтамабілі для дзяцей, якія прыводзіцца ў рух пры дапамозе сонечнай энергіі. Як гэта адбываецца?*

*На капотах рухавікоў гэтых аўтамабільчыкаў знаходзяцца фотаэлементы, канцэнтруюць яны сонечныя прамені — асноўную крыніцу энергіі ўсёй сучаснай тэхнікі. І вось іменна пры дапамозе гэтай энергіі аўтамабільчыкі прыводзяцца ў рух.*

*Фото — ЦАФ*

## З ДАВАЕННАГА БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ Ў ПОЛЬШЧЫ

★

У беларускім жыцьці на землях Заходняй Беларусі трэба з задаваленнем адцеміць факт скоордынавання сваіх натугаў у дамаганні беларускай школы двох нашых культурных арганізацыяў — Таварыства Беларускае Школы і Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, які быў пададзены ў супольна падпісанай і апублікаванай дэкляряцыі (гл. «Наша Воля» № 4 з 29.II.36 г.)

Для нас, маладой беларускай інтэлігенцыі, даўно было ясна, што змаганне за родную школу, гэта завялікая і паважная справа, каб тут і далей можна было-б у нашых палітычных абставінах пазваляць сабе на нескоордынаваную працу паасобных культурных арганізацыяў. І хоць сучасныя «дэмократычныя» абставіны моцна розняцца ад абставінаў 1926—28 г. — гадоў першага нашага плебісцыту за родную школу, — аднак нягледзячы на гэта, нашым абавязкам ёсць і далей кінуць на гэтае змаганьне ўсе свае народныя сілы.

Супольнае выступленьне ТБШ і БІГіК, апрача свайго вялікага значэння для школьнай справы, ёсць яшчэ адбіцьцём росту і консолідацыі актыўных сіл беларускага народу на фронце змаганьня за свае нацыянальна - культурныя патрэбы.

*Маладая Беларусь*
*кніжка 1.*
*Вільня 1936 год.*

ВАСІЛЬ БАРШЧЭЎСКІ (9)



Мінула некалькі месяцаў. А ўсё-ж такі Груні цяжка развітацца з мілым дзявочым станам і прызвычаіцца да жаночага. Вось і цяпер яна ляжыць на новым, так сказаць, сямейным ложку, зробленым некалі руплівым дзядзькам Піліпам, а думкі - мары, быццам вада бурлівай ракі, плывуць у яе галаве, зусім не жаночыя.

Успомніўся ёй апошні вясельны вечар. Тады яна першы раз убачыла Сяргея — яшчэ маладога, вельмі прыгожага, чарнявага хлопца, які жыў па-суседску з Мішкай. Сяргей папрасіў яе танцаваць.. Гармонік якраз граў найбольш усімі любімага вальца — «Амурскія хвалі».

Сяргей, нейк дзіўна, зусім інакш чым іншыя, моцна абняў рукой яе, прытуліў да сябе. Груня адчула, што цела яе, нейк само сабой туліцца да Сяргеявай пругкай постаці. Ой, як прыгожа ён танцаваў.

А Груня... — якія-ж тады ў яе былі ўзнёслыя пачуцці. Ёй здалося — быццам-бы яны плылі ў паветры ў нейкую невядомую далеч. А вочы! Вялікія, чорныя, Сяргеявы вочы! Як-жа глыбока яны глядзелі на Груню!

Вось менавіта тады ў Груні нешта балюча абарвалася ў грудзях. Яна ўздрыгнула. На шчасце гармонік перастаў граць і Груня насілу адарваўшыся ад Сяргея, хутка падышла да Мішкі...

Ляжыць Груня, думае, а хата непрыбраная, усюды непарадкі. Засмечаная падлога, усялякая вопратка ляжыць дзе-папала. На стале міска з недаедзенай заціркай, у якой мухі раяцца аж гудзе па хаце.

Не хочацца працаваць Груні.

— А ну яе з працай — думае яна — яшчэ напрацуюся ў сваім жыцці нямала.
Ды ці-ж не лепш паляжаць і паўспамінаць, хоць кароткія, аднак прыгожыя хвіліны ў сваім жыцці.

Успомнілася ёй, як аднойчы, амаль праз усю ноч, не магла заснуць, раздумваючы над сваім жыццём, над суадносінамі з Мішкай.

Не можна сказаць, што ён для яе нядобры. Наадварот, можа нават занадта. добры.

У кожнай працы стараецца заўсёды яе выручыць, лепш сам не даспіць і недаесць, а Груньк не стане непакоіць.

Аднак ці-ж яна яго кахае? Ці ёсць хоць крышку ў яе нейкага цяплейшага пачуцця да Мішкі?

Няспіцца Груні. Розныя пытанні цiснуцца да яе галавы. Не можа іх вырашыць. Побач яе ляжыць Мішка і дае храпака на ўсю хату. З носа яго як з паляўнічай трубы раздаюцца рознагалосныя сумныя гукі.

У акно заглядае баламут-месяц. Яго жоўты, закруглены твар цікава ўзір ецца ў Груню і пытае яе: «Ну як ты далей будзеш жыць?».

Груня адвярнуўшыся паглядзела на Мішку Ад бляску месяца яго твар зрабіўся мяртвяча жоўты. З шырока раззяўленага рота цякла тоненькая істужка сліны і стыкаючыся з снежна белай падушкай, утварала на ёй жоўтую пляму.

Груня з жудасцю адвярнулася ад Мішкі. Яна зразумела, што ніколі яго не пакахае, так як кахаецца ў сапраўднасці.

Павольна ўстаўшы з ложка Груня надзела сукенку і выйшла з хаты. На дварэ стаяла цёплая, месячная ноч. Зачыніўшы дзверы, Груня абаперлася аб іх плячыма. На сэрцы зрабілася ў яе цяжка, цяжка. Да вачэй падступіліся слёзы. Яна прытуліўшы разгарачаную галаву да вушака — горка заплакала.

Сярожа ў той час вяртаўся з вечарынкі. Здалёк убачыўшы белую сукенку і пачуўшы ціхае ўсхліпванне хутка падыйшоў да Груні.

Пазнаўшы, Сярожа лёгка дакрануўся рукой да яе і запытаў са здзіўленнем:

— Што з вамі Груня? Хто вас пакрыўдзіў?

Груня адвярнулася са спалохам і ўбачыўшы Сярожу яшчэ галасней заплакала.

Сярожа падступіў бліжэй і ўзяўшы яе за рукі пачаў неўпрыкметку туліць да сябе, адначасова супакойваючы яе.

— Ну што вы, Груня, што вы? Супакойцеся, прашу вас.

Прыгожая, хоць і заплаканая, Груніна галоўка апынулася на шырокіх Сяргеявых грудзях. Дрыжачае, пругкае цела моцна тулілася да яго.

Цікавы месяц выглянуў з-за хмары. Яго шырокі твар пытаў: «Ну, што далей?».

Сяргею кроў удэрыла ў галаву. Ён лёгка прыпадняў Груніну галоўку і знайшоўшы сваімі губамі, яе дрыжачыя вусны, выцiснуў на іх гарачы пацалунак.

Праз Груню быццам электрычная іскра пралящела. Аднак яна сілаю волі вызвалілася з Сяргеявай абдымкі. Ногі ёй падагнуліся і Груня не маючы сіл цяжка асунулася на парог.

— Што вы, Сярожа! Як-жа так можна... Ах божанька ты мой, што-ж гэта са мной дзеецца — зашаптала яна. Сярожа апусціўшы галаву стаяў побач. Ён памалу прыходзіў да сябе.

*(Працяг будзе)*



 




*Лі Сын Ман перайтварыў Поўднёвую Карэю ў адзін вялізны канцэнтрацыйны лагер.*
*(Трыбуна Люду)*



ПАЗІЦЫЯ ЛІ СЫН МАНА

# ПАРАСЯ

*Не ўяўляеце сабе, як я моцна люблю парасяты. Сам выгляд падскакваючага з задзертым і закручаным ад радасці хвосцікам парасяці — вельмі-ж мяне захапляе.*

*А калі ўжо падсмажым гэты хвосцік, — то ён так смачна хрумсціць, што апісаць немагчыма. Асабліва захапляе мяне парася, якое ляжыць на блюдзе, начыненае грэчанай кашай. У яго румяныя ножкі, а ў раззяўленай мордачцы гарчыць сачыстая маркоўка. Калі глянеш — здаецца, што гэта не парася, а проста кулінарная паэма.*

*І вось я толькі паспеў навакол яго пасыпаць зялёную пятрушку, адыйшоў крышку і прыжмурыў вочы, каб пабачыць якая ідылія з гэтага ўсяго вышла, а тут у гэты самы момант уваходзяць трое невядомых людзей. Адзін з іх быў з брэзентавым партфелям, а ў двух апошніх заўважыў я нейкі неакрэслены выгляд твараў.*

*— Ну, калі парася ўжо бачым, думаю, што са свінёй таксама пазнаёмімся — сказаў гэты, з брэзентавым партфелям.*

*Хацеў я пакрыўдзіцца, але не паспеў, бо той ўжо далей гаварыў:*

*— Калі-б гэтае парася выгадаваць, то для некалькіх людзей хапіла-б мяса.*

*Тут я і зразумеў, што гэта нейкая камісія, ды кажу:*

*— Добра, што вы да мяне прыйшлі, тады мы калектыўна, з хрэнам, гарчыцай і боскім напоям спраўдзім якасць парасяці, і пры гэтых славах паставіў на стол літроўку з гарэлкай.*

*Адзін з неакрэсленым выглядам твару кажа:*

*— Мы падчас выконвання абавязкаў піць ды закусваць ні будзем, мы прыехалі па загаду Грамадскай рады з Бабікоў.*

*Як пачуў я аб Бабіках, амаль сэрца мне не выскачыла.*

*— Тады падзелім — кажу — парася на чатыры часткі, напой таксама на чатыры часткі, апакую вам усё як у «Далікатэсах», а вечарочкам пасля службы павячэраеце сабе.*

*— Гэта хабарніцтва — кажа другі з неакрэсленай мінай на твары. — Трэба неадкладна запісаць у пратакол. Вам з Бабікоў прывезлі 20 цэнтнераў бульбы, вотруб'я і кукурузы?*

*— Пэўна, што прывезлі, мой-жа родны брат жыхаром Бабікоў з'яўляецца — адказваю.*

*— Значыць брат ваш на вёсцы ў Бабіках свіней не гадуе, а тут у горадзе гадуеце. Брат пазбягае кантрактацыі, а свіней прадае па спекуляцыйнай цане. Падпішыце гэты пратакол і да пабачэння — сказаў гэты з партфелям і падаў мне запісаную паперу.*

*І я падпісаў.*

*Цяпер думаю ўзяць пару парасят, ды занесці каму-небудзь з «вышэй сядзячых». Няхай увойдуць у нашае становішча. Шмат ёсць такіх сялян, якія выконваюць мясапастаўкі, гэта праўда, але ніхто з іх так любоўна не захапляецца парасяцем, як мы з братам.*

Дзядзька Лявонь

## Ігнат Цікавы і Міколавы „паставы"

Мікола — гаспадар багаты,
Ён мае пару коней, балановы воз...
Дала бяда суседа беднага, Ігната,
У гэту пору ў Раду чорт прынёс
(Прышоў страхоўку заплаціць апошню рату)
Пачуў Міколы голас за дзвярыма,
Прытрымаўся — (Разважны быў нябось).
«Мікола тут!» — заварушыў плячыма, —
«Сусед мой паважаны, добры госць».
Міколу радным выбралі цераз памылку
(Хто ведае а мо' людзям на злосць).
Цяпер ён мае многа думак у галаве,
Яго ня возмеш братка за бутылку —
Калі захоча выпіць, п'е ён за свае.
У Грамадзе з старшынёю ў іх адна рука,
Клапоцяцца яны ўдвох разам аб дзяржаве.
Ігнат завёз на базу вяпрука,
На раты заплаціў падатак,
Усе выканаў паставы, бульбы, збожжа.
А ў Міколы, дык другія справы,
Нічога ён шчэ для дзяржавы не аддаў.
Ды і з ведамых прычын аддаць не можа.
У яго-ж свіння паела парасяты,
У хляве цялушку огер растаптаў.
Наведала бяда яго ва ўсіх галінах;
— На полі ўраджай зусім прапаў,
Паверце, старшыня, пяць копы жыта я нажаў.
Авечкі воўк усе перанасіў, пакраў
(Ігнат стаяў і слухаў за дзвярыма).
А старшыня Міколу пацяшаў:
— Маўчы, як не аддаў... і аддаваць не будзеш —
У нашай Радзе ўсе-ж свае мы людзі,
Ды з радных шчэ ніхто дзяржаве ніц не даў.
Хадзі, пабач, прашэнне кожны напісаў...
Сядай і ты Мікола, ды пішы,
У вёсцы нат ніхто й не будзе знаў..
Аж у Ігната нешта трэснула ў душы,
Аж галавою наш Ігнатка закруціў:
«Мікола-ж учора ў «Галях» мяса прадаваў,
Ды збожжа тонаў з дзве намалаціў,
Авечкі ды цяля на пашу дзесь аддаў,
Ну-ж і круцель, каб ты быў карк зламаў!»
Мікола старшыню на вечар стаў прасіць
(Ну так браткі пагаварыць, папіць...),
А старшыня Міколу запэўняў:
— У першую чаргу павет прашэнні разглядзіць
Вядома, нашы... і якось далей будзем жыць...
Ігнат, пачуўшы, аж дастаў калёраў,
Аж заругаўся ўголас, проста «У маць».
— Падлюгі, камбінатарская сволач!
Ужо годзе вам дзяржаву абкрадаць...
І спішыў голас з перапугу.
— Што сам зраблю супроць зладзюгаў!

КОРАНЬ

## Прыказкі і прымаўкі

**Парожняя бочка звініць, а поўна маўчыць.**

**Абяцаў Бог даць, але казаў падаждаць.**

**Не ганьбуй старым ботам, пака новага не пашыў.**

**Ні бяры калі ні палажыў.**

## А пад лесам курыць, курыць...

(Беларуская народная песня).




*А пад лесам курыць, курыць,*
*А дзед бабу журыць, журыць:*
*— Ідзі баба, дамоў, дамоў,*
*Напякі мне бліноў, бліноў.*

*А бабусі не хочыцца,*
*Каля печы вірочацца, —*
*На ёй тоненька сарочачка,*
*Кужэльная намёточка.*

*Ды саянік зялёненькі,*
*Хвартушочак чырвоненькі,*
*А саянік лушчыць, лушчыць*
*Хвартушочак блішчыць, блішчыць.*

## Размова па шчырасці

Гр. начальчік, мне здаецца, што вас н..хта па тэлефону вызывае.

— Як гэта, здаецца?.. — кажа начальнік.

— Ну так, бо спыталі «Ці гэты стары вар'ят яшчэ не пайшоў? Калі не — то паклічце да тэлефона».

## Калі горш...



*І Суседка: — Вельмі дрэнна, як жанчына заўважвае, што яна ўжо старэе...*

*ІІ Суседка: — Ой, яшчэ горш, калі яна гэтага... не заўважвае...* **Р.**

## АДГАДАНКА



Каб развязаць адгаданку трэба паўпісваць па гарызанталі прозвішчы беларускіх пісьменнікаў і паэтаў. Літары ў чорнай рамцы, чытаныя зверху ўніз, дадуць развязку. Дзеля аблягчэння развязкі адгаданкі падаем імёны адгадваемых аўтараў.

1. Францішак 2. Янка. 3. Пімен. 4. Мікола. 5. Якуб. 6. Кандрат. 7. Янка 8. Канстанцыя. 9. Алаіза. 10. Піліп. 11. Кузьма 12. Іван. 13. Міхась. 14. Аркадзь.

Сярод чытачоў, якія да 15.XI.1956 года прышлюць правільныя развязкі — разыграецца 10 кніжных узнагарод.

## АГАФОН АБРОТКА АГЛЯДАЕ МАШЫНЫ



*— Гаспадарчыя машыны! -*
*Агафончык разважае:*
*— Забяспечаны на зіму?*
*А ну пайду паўзіраюсь.*

*Йдзе Абротка польным трахтам.*
*Тут баронка, а там трактар.*
*Стаіць, іржавее сеўнік.*
*— Кансервацыя напэўна!*

*— Ну й парадкі, Агафончык, —*
*Да яго гаворыць сонца, —*
*Хутка скрыюся за хмары,*
*Будзе дождж асенні шпарыць.*

*— У ГОМ-ах, ПОМ-ах дрэнны справы —*
*Піша Агафон у Варшаву, —*
*Дзе машыны дзець не знаюць,*
*На інструкцыю чакаюць.*


Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

Орган Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў Польшчы Адрас рэдакцыі гор Беласток, вул Маніфесту Ліпцовага 25, тэл 25-89 Умовы падпіскі на 6 месяцаў — 15 зл. 60 гр., на 3 месяцы — 7 зл 80 гр Падпіску прымаюць усе паштовыя ўстановы, пісьманосцы Konto NBP I Oddz. Miejski Nr 102-7-161 w Białymstoku. Prenumeratę za zleceniem wysyłki zagranicę przyjmuje PKWZ „Ruch" Warszawa, Aleje Jerozolimskie 119, tel 8-05-05, konto PKO 1-6-100024 Warszawa. Cena prenumeraty zagranicę: kwartalnie 10,15, półrocznie 20,30, rocznie 40,60. Паліграфічнае прадпрыемства ў Беластоку Т-7-1890